# 2004

| | |
|---|---|
| Студзень | 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 13 14 15 16 17 18 19 20 21 22 23 24 25 26 27 28 29 30 31 |
| | ч п с н п а с ч п сб нд пн ат ср чц пт сб нд пн ат ср чц пт сб нд пн ат ср чц пт сб |
| Люты | 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 13 14 15 16 17 18 19 20 21 22 23 24 25 26 27 28 29 |
| | н п а с ч п с н п ат ср чц пт сб нд пн ат ср чц пт сб нд пн ат ср чц пт сб нд |
| Сакавік | 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 13 14 15 16 17 18 19 20 21 22 23 24 25 26 27 28 29 30 31 |
| | п а с ч п с н п а ср чц пт сб нд пн ат ср чц пт сб нд пн ат ср чц пт сб нд пн ат ср |
| Красавік | 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 13 14 15 16 17 18 19 20 21 22 23 24 25 26 27 28 29 30 |
| | ч п с н п а с ч п сб нд пн ат ср чц пт сб нд пн ат ср чц пт сб нд пн ат ср чц пт |
| Травень | 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 13 14 15 16 17 18 19 20 21 22 23 24 25 26 27 28 29 30 31 |
| | с н п а с ч п с н пн ат ср чц пт сб нд пн ат ср чц пт сб нд пн ат ср чц пт сб нд пн |
| Чэрвень | 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 13 14 15 16 17 18 19 20 21 22 23 24 25 26 27 28 29 30 |
| | а с ч п с н п а с чц пт сб нд пн ат ср чц пт сб нд пн ат ср чц пт сб нд пн ат ср |
| Ліпень | 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 13 14 15 16 17 18 19 20 21 22 23 24 25 26 27 28 29 30 31 |
| | ч п с н п а с ч п сб нд пн ат ср чц пт сб нд пн ат ср чц пт сб нд пн ат ср чц пт сб |
| Жнівень | 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 13 14 15 16 17 18 19 20 21 22 23 24 25 26 27 28 29 30 31 |
| | н п а с ч п с н п ат ср чц пт сб нд пн ат ср чц пт сб нд пн ат ср чц пт сб нд пн ат |
| Верасень | 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 13 14 15 16 17 18 19 20 21 22 23 24 25 26 27 28 29 30 |
| | с ч п с н п а с ч пт сб нд пн ат ср чц пт сб нд пн ат ср чц пт сб нд пн ат ср чц |
| Кастрычнік | 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 13 14 15 16 17 18 19 20 21 22 23 24 25 26 27 28 29 30 31 |
| | п с н п а с ч п с нд пн ат ср чц пт сб нд пн ат ср чц пт сб нд пн ат ср чц пт сб нд |
| Лістапад | 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 13 14 15 16 17 18 19 20 21 22 23 24 25 26 27 28 29 30 |
| | п а с ч п с н п а ср чц пт сб нд пн ат ср чц пт сб нд пн ат ср чц пт сб нд пн ат |
| Снежань | 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 13 14 15 16 17 18 19 20 21 22 23 24 25 26 27 28 29 30 31 |
| | с ч п с н п а с ч пт сб нд пн ат ср чц пт сб нд пн ат ср чц пт сб нд пн ат ср чц пт |

## СПІС НЕКАТОРЫХ СВЯТАЎ:

1.01. – Новы год.
7.01. – Праваслаўныя Каляды.
25.03. – Дзень Волі (Дзень Незалежнасці). Дабравешчанне (Звеставанне).
4.04. – Вербная нядзеля.
7.04. – Праваслаўнае Дабравешчанне (Звеставанне).
11.04. – Вялікдзень.
20.04. – Радаўніца (Раданіца).
20.05. – Ушэсце.
30.05. – Сёмуха.
15.07. – Свята Грунвальду.
27.07. – Дзень Незалежнасці (Дзень прыняцця Дэкларацыі аб Незалежнасці).
6.08. – Дзень Друку.
25.08. – Дзень Адраджэння.
8.09 – Свята Аршанскае перамогі.
19.09. – Дзень Нацыянальных Сімвалаў Беларусі.
27.11. – Дзень Герояў.
25.12. – Каляды.



